Ніва
БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 30 (595) ГОД XII 23 ЛІПЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.



# У КАЛГАСЕ „ГВАРДЫЯ“

Над Эйсмантамі чыстае, блакітнае неба. Простыя шырокія вуліцы забудаваны вясёлымі аднапавярховымі і двухпавярховымі дамамі. Над імі мачты тэлевізійных антэн. Усюды сустракаюць дэкаратыўныя дрэвы, квітнеючыя клумбы, буйная зеляніна. Я іду па вёсцы і любуюся ўбачаным. Прыгожы калгасны парк. Прыемна пасядзець у ценю дрэў. Асфальтаваная дарожка проста з парку прывяла ў палац культуры. Жыхары Эйсмант любяць прыходзіць сюды ў святочныя дні і ў будзённыя вечары. Тут дзве залы: глядзельная і танцавальная, пакоі для гульняў, чытальныя залы для калгаснікаў і іх дзяцей. На стэлажах бібліятэкі звыш 7 тысяч тамоў кніг. Кінафільмы, канцэрты сталічных артыстаў і самадзейных калектываў калгаса, чытальніцкія канферэнцыі, дыспуты знаходзяць актыўных гледачоў, слухачоў, удзельнікаў. Эйсмантаўцы не прапусцяць выпадку, каб не пахваліцца сваёй лазняю з ваннамі, з душам. Эйсманты — цэнтр калгаса «Гвардыя» Берастаўіцкага раёна. Молада і прыгожа выглядаюць і Рэмуцеўцы, і Валатынь, і Ковалі — усе вёскі калгаса. Багата і культурна жывуць тутэйшыя земляробы. Што ні дом — поўная чаша.

Высокая ўсмешлівая жанчына запрашае:

— Зайдзіце, калі ласка, і да нас. Заходжу. Францішка Лісоўская вядзе мяне з пярэдняй у пакой, потым паказвае дзіцячую, спальню. Аглядваюся. Гледзячы на абсталяванне, убранне — гарадская кватэра. Усе пакоі мэбляваны са смакам. Усё сучаснае — і спальны гарнітур, і сервант, і ложкі — канапы. Відаць, што гаспадары і іх дзеці не нудзяцца вечарамі. У пакоі стаяць тэлевізар, радыёпрыёмнік. Пасля працы гаспадары дома любяць адпачываць на верандзе.

Жанчына дастае з альбому здымак і працягвае мне. На ім адлюстравана хатка з падслепаватымі вокнамі, саламянай страхою.

— Вось у гэтай курнай хаце нарадзіўся, жыў мой муж з бацькамі, сюды я прыйшла жыць пасля нашага вяселля. Цяпер, думаю, вам будзе зразумелым, чаму дарагі нам калгас. Дык толькі дзякуючы яму мы змаглі пабудаваць сабе такі прыгожы дом. Тры тысячы нас каштаваў.

Сям'я Лісоўскіх — радавая калгасная сям'я. Тадэуш Казіміравіч свінар, праўдзівей свінар механізатар. Цяпер на ферме, дзе ён працуе, комплекс машын. Яны рыхтуюць і раздаюць корм жывёле, прыбіраюць памяшканне. Францішка Казіміраўна працуе ў паляводстве. Тадэуш Лісоўскі паведаміў, што разам з жонкаю яны зарабляюць у год амаль 2300 рублёў. Але акрамя грошай, якія яны атрымоўваюць з грамадскай касы ў іх асабістай гаспадарцы ёсць прысядзібны ўчастак, карова, свіні, куры, пчальнік. Гародніну, садавіну купляць не трэба, і сям'я траціць грошы на прыгожае абсталяванне, на моднае адзенне. Зазначым, што ў Лісоў-

(Працяг на стар. 5)




Грымеў фронт. Савецкія воіны безупынна наступалі. 17 ліпеня вызвалілі яны Гайнаўку, 22 ліпеня Сямяцічы, 27 ліпеня армія генерала Захарава прагнала гітлераўскіх акупантаў з Беластока.

Гэтага самага дня на ваенным аэрадроме горада Хэлм узняўся ў паветра самалёт «Дугляс». На яго барту — 19 польскіх салдат «касцюшкоўцаў» і група ўпаўнаважаных Польскім камітэтам нацыянальнага асвабаджэння і Цэнтральным Камітэтам Польскай рабочай партыі: **Эдуарда Арлоўская, Тадэуш Пашта і Зігмунт Зялінскі.** У састаў гэтай групы ўваходзілі яшчэ маёр **Леанард Барковіч** і доктар **Ежы Штахельскі.** Яны аднак абавязаны былі з Хэлма явіцца ў Люблін, каб выпрасіць радыёстанцыю і ўзяць навейшыя інструкцыі. Наступным самалётам зараз жа накіраваліся ў Беласток.

Успамінае Тадэуш Пашта:

— Не было гэта бяспечнае падарожжа. Ляцелі мы ў франтавой паласе. Кожную хвіліну можна было спадзявацца артылерыйскага абстрэлу і атакі нямецкай авіяцыі. Таму суправаджала нас аж 6 савецкіх ястрыбкоў. На шчасце не давялося ім абараняць нас перад фашысцкімі самалётамі, але нямецкія зеніткі крыху нас патрывожылі. Ды яшчэ ўзнялася бура з праліўным даждждом і перунамі. Салдаты жартавалі: «Бог змывае з польскай зямлі фрыцаўскі смурод». А нам хацелася як найхутчэй быць у Беластоку. Маем тварыць там новую народную ўладу. Што нас чакае?

Не, не спадзяваліся, што сустрэнуць іх кветкамі, але таксама не прадчувалі сарганізаванага супраціўлення. Што ж, памыліліся.

Нацыяналістычная вайсковая арганізацыя НСЗ (Народовэ Сілы Збройнэ) у сваіх радах згуртоўвала на Беласточчыне ў той час звыш 6 тысяч членаў, а другая вайсковая арганізацыя — Армія Краёвая — ў Беластоцкай і Люблінскай акругах толькі адных афіцэраў у сакавіку 1944 года мела звыш 1 200 чалавек. Былі яшчэ і другія менш шматлікія арганізацыі, якія таксама прызнавалі ПКВН як «няпраўную і самазванчую ўстанову, якая будзе ліквідавана разам з савецкім акупантам», як сцвярджае адзін з дакументаў. Галоўны камендант АК 11 ліпеня 1944 года загадаў (загад № 131) каменданту Беластоцкай акругі АК Мсцілаву (Уладзіслаў Лінярскі): «...у ніякім выпадку нельга вам дапусціць да падпарадкавання вас і вашых атрадаў атрадам арганізаваным Саветамі (Берлінг, Васілеўская і т. п.) або дазволіць уцягнуць вас да савецкай арміі. Узгодніць тактыку дзейнасці, але толькі як АК».

Польская газета «Голас Беластоцкай зямлі», орган лонданскай дэлегатуры на Беластоцкае ваяводства, пісала ў ліпені 1944 года: «Разам з уваходам Чырвонай Арміі ў Беласток да савецкіх улад натыхмястова явіўся акружны дэлегат Урада Рэчыпаспалітай Польскай як адзіны легальны і на працягу 5-ці год стаяўшы на пасту гаспадар Беластоцкай зямлі...» Адміністрацыйны апарат таксама быў ужо гатовы. Трэба было яго толькі паклікаць да дзейнасці.

«Гаспадар» гэты называўся Юзэф Пшыбышэўскі.

Першымі жыхарамі Беластока, з якімі сутыкнуліся пасажыры «Дугляса», былі рабочыя, што працавалі на беластоцкім аэрадроме.

— Прынялі нас холадна, — успамінае таварыш Пашта. — Потым выясвілася, што ўзялі нас за савецкіх салдат перапранутых у польскія мундзіры. Варожая прапаганда рабіла сваё. Першая завяла гутарку таварыш Арлоўская. На чыстай польскай мове. Яна ж нарадзілася ў Варшаве. І тады здзіўленне: ці ж бы сапраўды гэта палякі?! Акружылі нас, пасыпаліся пытанні: як, адкуль і т. п. На жаль, мы не маглі заводзіць доўгіх гутарак. Рашылі прадэманстраваць сваю наяўнасць у Беластоку. Пастроілі свой 18-ціасабовы атрад войска і разам з ім накіраваліся ў дэманстрацыйны паход па разбураных вуліцах горада. Арлы на шапках у нашых салдат былі без карон. І гэта быў першы знак, па якім нас адрознівалі ад другіх ваенных фарміровак гэтага часу. У цэнтры горада аднесліся да нас абыякава, але ў рабочых кварталах віталі нават кветкамі і на начлег прынялі, і пакармілі, чым мелі.

Эдуарда Арлоўская, як член КСМ і КПЗБ, доўгі час працавала ў Беластоку падпольшчыцай, а пасля, пры савецкай уладзе, была тут вядомым дзеячом прафсаюзнай арганізацыі тэкстыльшчыкаў. Доктар Ежы Штахельскі таксама меў у Беластоку шмат сваіх асабістых знаёмых. Гэта адразу дапамагло ім наладзіць першыя кантакты і сарыентавацца ў кадравых магчымасцях.

Наступнага дня 28 ліпеня 1944 года ў будынку на вуліцы Варшаўскай 57а сабралося 23 асобы: 4 рабочых, 2 сялян, 2 настаўнікаў, 3 лекараў, 4 інжынераў, 2 юрыстаў і 6 іншых работнікаў разумовай працы. У пратаколе з гэтага сходу чытаем:

«Пасяджэнне адкрыў а гадзіне 10,45 упаўнаважаны Польскім камітэтам нацыянальнага асвабаждэння на Беластоцкае ваяводства маёр Барковіч і ва ўступным слове паясніў, што тэхнічныя перашкоды замарудзілі паклікання да жыцця Ваяводскай рады народовай. Гэтыя самыя перашкоды не дазваляюць правесці выбараў, неабходных з пункту гледжання дэмакратыі. У сувязі з гэтым, тыпуючы членаў, стараўся ён ўзяць пад увагу ўсе слаі грамадства...»

Старшынёю першай беластоцкай ВРН па прапанове маёра Барковіча прысутныя аднагалосна выбралі доктара Штахельскага. Яго намеснікам стаў селянін Якуб Антанюк.

Была тады ўжо народная ўлада, але не было яшчэ на Беласточчыне рабочай партыі, у якой знайшла б яна падтрымку і абарону.

Лонданскі дэлегат Юзэф Пшыбышэўскі не здаваўся. У адозвах, якія зараз паявіліся ў горадзе, прызнаў ён ВРН незаконнай і надалей намагаўся ўводзіць свае парадкі. На вуліцы выйшлі ўзброеныя людзі з павязкамі на рукавах, на якіх было напісана: **«Міліцыя польская»**. А ў наступных адозвах га-

(Працяг на стар. 3)



**Фрагмент палаца Браніцкіх у Беластоку. Тут цяпер мае сваю сядзібу Медыцынская акадэмія.**

Фота Г. Рагазінскі

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ПРАВАКАЦЫІ НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ

Мінулы тыдзень не быў спакойны на Блізкім Усходзе. Ізраільскія войскі вялі перастрэл з арміяй Егіпта. Самалёты Ізраіля збамбілі горад Суэз. Адначасова ізраільскія войскі абстрэльвалі пазіцыі іарданскай арміі. Гэтыя, як і шмат іншых, факты з'яўляюцца доказам, што агрэсіўным сілам Ізраіля, за якіх плячыма стаяць амерыканскія імперыялістычныя кругі, не залежыць толькі на тым, што яны зрабілі. Планы агрэсара, як мы ўжо пісалі, міма, што заняў ён вялікую тэрыторыю, не здзейсніліся. У арабскіх краінах, у асноўным, далей асталіся ўрады антыімперыялістычныя і прагрэсіўныя.

Міжнародныя вынікі агрэсіі Ізраіля на працягу вельмі кароткага часу доказалі еўрапейцам, як малым стаўся свет другой паловы XX стагоддзя. Мінуў залаты час, калі можна было ізалявацца ад падзей, якія адбываюцца за некалькі соцен, а нават тысяч кіламетраў ад Еўропы. Вялікія ідэалагічныя канфлікты, не залежна ад таго, дзе б яны не адбываліся — у тэрытарыяльным сэнсе — зараз жа стаўляюць пад пагрозу трываласць сусветнага міру. Іменна тое, што дзеецца на Блізкім Усходзе поўнасцю пацвярджае гэтую праўду. Не перасольваем, калі гаворым з упорам і аб тым, што в'етнамская вайна таксама стварае пагрозу міру.

### У ААН

Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прыняла 99 галасамі праект рэзалюцыі Пакістана, які ўжо ў другі раз анулюе анексію Іерусаліма, якую правёў Ізраіль.

У галасаванні не прыняў удзелу дэлегат Ізраіля, а ЗША і 17 іншых краін не галасавалі за пакістанскай рэзалюцыяй.

### КІЗІНГЕР АБ ВАЕННЫХ ВЫДАТКАХ

Міма ранейшых заяў Кізінгера, бонскі канцлер у апошні час сказаў, што выдаткі ФРГ на збраенне будуць узрастаць да 1971 года на 7,5 прац. у год. Пацвердзіў адначасова, што бонскі ўрад ні ў якім выпадку не зменшыць ваеннага бюджэту.

### М. ЧОМБЕ

М. Чомбе, былы шэф і забойца Лумумбы, зараз знаходзіцца ў Алжыры. Як вядома быў ён завочна прыгавораны ў Конга да смяротнага пакарання.

Зараз у Алжыры разглядаецца справу паклікання рэвалюцыйнага трыбуналу, які судзіў бы людзей выступаючых супраць вызваленчым рухам і супрацоўнічаючым з імперыялізмам. Трыбунал складаўся б з прадстаўнікоў вызваленчых рухаў Афрыкі, Азіі і Лацінскай Амерыкі. Можа і Чомбе стане перад рэвалюцыйным трыбуналам?

## БССР

### МІЖНАРОДНАЯ

У Мінску адбылася міжнародная навукова-метадычная нарада прадстаўнікоў сацыялістычных краін, членаў РВПГ. Абмеркавана праблемы, звязаныя са змяненнем тарфяных глеб пад уплывам асушэння.

Нараду адкрыў міністр сельскай гаспадаркі Беларускай ССР, акадэмік Акадэміі навук Беларусі С. Скарапанаў.

У нарадзе ўдзельнічалі вучоныя Польшчы, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Румыніі, а таксама шматлікія прадстаўнікі агульнасавецкай меліярацыйнай навукі.

### ОРДЭН

Магілёўская вобласць Беларускай ССР на моцы ўказу Прэзідыума Вярхоўнага Савета Саюза ССР узнагароджана ордэнам Леніна.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Саюза ССР узнагародзіў ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга сельскае прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 1 Магілёўскай вобласці.

### СХОД

У Мінскім акруговым доме афіцэраў адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны Дню паветранага флоту Саюза ССР.

У сходзе ўдзельнічалі сакратары ЦК КП Беларусі Ф. Сурганаў, Д. Філімонаў, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Лабанок, камандуючы войскамі Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік С. Марахін.

Прамову на сходзе меў начальнік штаба Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік Г. Арыка.

### «МІНСК — 3»

Мінскі завод электрахаладзільнікаў пачаў серыйную прадукцыю хатніх халадзільнікаў «Мінск-3». Гэты халадзільнік характарызуецца эстэтычным выглядам і большай ёмістасцю.

### АДКРЫТЫ

У Саюзе мастакоў Беларусі адбыўся адкрыты партыйны сход. Гутарка ішла аб ідэйна-творчай рабоце Саюза, аб арганізацыі выставак, прысвечаных 50-годдзю Савецкай улады.

У сходзе прыняў удзел намеснік міністра культуры Беларускай ССР Ю. Міхневіч.

### НОВЫ

Саюз кінематаграфістаў Беларусі арганізаваў перагляд і абмеркаванне новага фільма «Тысяча вокнаў», зробленага на кінастудыі «Беларусьфільм».

Новы фільм з'яўляецца аповесцю пра студэнцкае жыццё і сяброўства.

### НАРОДНАЙ

Своеасаблівым збіральнікам беларускай вуснай народнай творчасці з'яўляецца загадчык Талачынскага раённага аддзела народнай асветы Уладзімір Панушкін, які ўмела спалучае свае службовыя, здавалася б, бюракратычныя функцыі са шчырым зацікаўленнем да народа і яго творчасці. Ён сабраў ужо больш як **пяць** тысяч прымавак і прыказак, каля **дзвюхсот** беларускіх народных песняў. (СЯ)

## ПОЛЬШЧА

### СТАТЫСТЫКА

Апублікавана некаторыя новыя дадзеныя Галоўнага статыстычнага бюро. Дадзеныя адносна структуры насельніцтва краіны паказваюць, што на вёсцы пражывае зараз 15,5 мільёна людзей, у тым ліку каля 7,6 міль. мужчын і каля 8 міль. жанчын. У 1960 годзе насельніцтва вёскі ва ўзросце да 14 гадоў складала 36 працэнтаў, зараз знізілася яно да 32 прац. Затое колькасць жыхароў вёскі звыш 60 гадоў павысілася з 10,4 прац. у 1960 годзе да 12,6 прац. цяпер.

Праведзена таксама доследы адносна чытальніцтва друку. Найбольш папулярнай газетай аказаўся «Экспрэс Вечорны», а тыднёвікам — «Пшыяцюлка».

### АСУДЖЭННЕ

Апублікавана заяву Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў у Польшчы, у якой асуджаецца ізраільская агрэсія на аравійскія краіны. У заяве між іншым чытаем:

«Мы, польскія яўрэі, якія за жыцця аднаго пакалення неаднакратна выпрабоўвалі страшлівага лёсу выгнання са сваіх дамоў і гарадоў, з асаблівай сілай асуджаем палітыку ў адносінах да акупіраванага аравійскага насельніцтва. Патрабуем у інтарэсе міру на Блізкім Усходзе, астатковага вырашэння праблемы аравійскіх выгнаннікаў».

### ПАРТЫЯ

Члены і кандыдаты партыі складаюць зараз 9,3 працэнтаў насельніцтва краіны ва ўзросце звыш 18 гадоў, а кожны шосты працаўнік знацыяналізаванай гаспадаркі з'яўляецца членам ПАРП. Звыш 40 прац. членаў партыі — гэта рабочыя, а партыйныя арганізацыі на вёсцы згуртоўваюць каля 230 тысяч сялян.

### ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ

Ваяводскі суд у Кракаве выдаў прысуд смерці на многакратнага забойцу Кароля Кота. Кот на ахвяры сваіх забойстваў выбіраў асобы, якія не былі здольнымі да эфектыўнай абароны: малыя дзеці і старыя жанчыны. Забойствы свае праводзіў без разліку на якую-небудзь карысць, а толькі таму, што, як сам гаварыў, забіванне людзей прыносіла яму вялікае задавальненне. У абшырным абгрунтаванні прыгавору суд сканцэнтраваўся на ацэнцы экспертаў — псіхіятраў, якія лічаць Кота псіхічна хворым — псіхапатам. Суд лічыць, што злачынец гэты, не гледзячы на хваробу свайго характару, быў інтэлектуальна здольны да ацэнкі сваіх паводзін і кіравання імі, і таму нясе за іх поўную адказнасць.

### РЭКЛАМА

У красавіку, маі і чэрвені гэтага года прададзена 23 тысячы матаровых веласіпедаў маркі «Комар» — гэта значыць у два разы больш, чымсьці ў гэтым самым часе мінулага года. Сталася так дзякуючы добра сарганізаванай гандлёвай рэкламе.

## ВАЯВОДСТВА

### СТШАЛЕЦКІ

Беласточчыну наведаў член Палітбюро ЦК, сакратар ЦК ПАРП Рышард Стшалецкі з жонкаю.

Стшалецкі сустрэўся з кіраўніцтвам Ваяводскага камітэта ПАРП і меў размову аб грамадска-гаспадарчым развіцці нашага ваяводства. Госць асабліва цікавіўся працаю радаў нарадовых і рэалізацыяй пастаноў VII пленума ЦК ПАРП у галіне тэрытарыяльнай адміністрацыі.

Стшалецкі наведаў Гайнаўку, пабываў у «Хімічнай», сустрэўся з кіраўніцтвам Акруговага праўлення Дзяржаўных лясоў.

У падарожжы па Беластоцкім ваяводстве суправаджаў Стшалецкага член ЦК, першы сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку Аркадзь Лашэвіч.

### МІЖНАРОДНЫ

У Зялёнай пад Беластокам адбываецца маладзёжны міжнародны лагер, у якім знаходзяцца піянеры і камсамольцы з Літвы і Беларусі (з Гродна).

Літоўскіх і беларускіх гасцей сардэчна сустрэла беластоцкая моладзь. Адбыліся экскурсіі па Беластоку — між іншымі, госці наведалі Медыцынскую акадэмію, цэнтр горада і вядомы клуб «Сямі», дзе меў месца гасцінны пачастунак.

### ПЕРШАЕ

Беластоцкае ваяводства займае адно з першых месц у Польшчы па кантрактацыі збожжавых культур. Беласточчыну апераджае толькі Кашалінскае ваяводства.

### ГАНДАЛЬ

Беластоцкі гандаль паведамляе, што ў час жніўных работ у полі будзе дастатковая колькасць мукі і тлушчаў у вясковых крамах. Каб сэканоміць час гаспадароў, многія ГС-ы падпісалі дагаворы з пякарнямі ў суседніх гарадах на дастаўку свежага хлеба адразу ў вясковыя крамы. Як вядома, пякарні, што існуюць пры вясковых ГС-ах, няздольныя пакрыць цэласць патрэб на свежы хлеб у вёсках.

### КОНКУРС

У сувязі з вялізным ростам нешчаслівых выпадкаў на дарогах, Беластоцкая міліцыя праводзіць конкурс для ўсіх людзей пад назваю — **«Ведаем і пільнуемся правілаў дарожнага руху»**. Конкурсныя пытанні будзе друкаваць «Газета Беластоцкая». У гэтым конкурсе можа прыняць удзел кожны, хто захоча.

Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца: Беластоцкая камендатура міліцыі, Аддзел камунікацыі Ваяводскай рады нарадовай, Ваяводскі Аддзел ПЗУ і рэдакцыя «Газеты Беластоцкай».

Такі конкурс заслугоўвае як найбольшай падтрымкі і ўвагі.




**Niedziela 23.VII.**

8.30 „Plac przy Kijowskim dworcu" — rep. z Kijowa. 9.00 „Sfinksy nad Newą" („W świecie sztuki"). 9.30 „Przypominamy, radzimy" — „Budujemy silosy". 9.40 „Lekarstwo na miłość" — film („Koń, który mówi"). 10.05 Centralna Spartakiada w gimnastyce — finał. 12.00 Wiadomości dziennika. 12.10 „Lipcowa rewia zespołów amatorskich". 13.10 „Nasze życie codzienne". 14.00 „Przemiany". 14.25 PKF. 14.45 Koncert rosyjskiej muzyki ludowej (Moskwa). 15.30 „Jak zostałem spikerem" („Spotkanie z Tadeuszem Bechеńskim"). 15.55 Półfinał Pucharu Europy w lekkiej atletyce (Ostrava). 18.05 „Chaplin i jego pierwsze filmy" — film USA. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „3 × młodość" — program estradowy. 21.15 „Kapral i inni" — film fab. węg. 22.45 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 28.VII.**

17.25 Wiadomości dziennika. 17.30 „Uwaga, tygrysy" — film radz. 17.55 „Bryza". 18.20 „Eureka". 18.50 „Kino Krótkich Filmów". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Brzegiem Kaspijskiego Morza" — rep. film. 20.20 Teatr TV: „Ostry dyżur". 21.30 „Krzyk kobiet" — rep. film. 21.45 Dziennik TV.

**Wtorek 25.VII.**

10.00 „Dzielnica Szczęście", film fab. rum. (Poznań). 11.20 Przerwa. 17.05 Program dnia. 17.10 „Telekram". 17.25 Wiadomości dziennika. 17.30 TELEFERIE. 18.45 „Fama, plon, Sandomierz — 67" — program studencki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Śpiewa Jerzy Połomski". 20.40 TV Kurier Warszawski. 20.55 „Dzielnica Szczęście" — film fab. rum. (Poznań). 22.15 Kronika Kulturalna. 22.35 Dziennik TV.

**Sroda 26.VII.**

10.00 „Daleki ukochany" — film fab. radz. 11.15 Przerwa. 17.10 Program dnia. 17.15 Wiadomości dziennika. 17.20 „Manuela" — film kubański. 18.00 „Kino Filmów Amatorskich". 18.30 Wszechnica TV: „Za kierownicą". 19.00 PKF. 19.10 „Nerwy" — film tv CSRS. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Komputery czy rachmistrze" — program ekonomiczny. 20.30 „Nim nadejdzie świt" — film tv („Podziemny front"). 21.00 „Światowid". 21.30 „Siódmy człowiek" — film tv USA. 22.00 Dziennik TV.

**Czwartek 27.VII.**

16.40 Program dnia. 16.45 Dla dzieci: „Witia — Neptun". 17.15 Wiadomości dziennika. 17.20 „Tramp". 17.40 „Gejsza", film („Za siedmioma górami"). 18.05 „Czwarta zmiana". 18.35 „Muzyka w Szczecinie" — program muzyczny. 19.05 „Romansik Reka", film CSRS. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Wszechnica TV: „Secesja". 20.35 „Dymna zasłona" — film fab. ang. (od lat 16). 21.40 „Schlesierzy roku 1967". 22.10 Dziennik TV.

**Piątek 28.VII.**

10.00 „Diabelska przepaść" — film fab. CSRS. 11.30 Przerwa. 16.15 Program dnia. 16.20 TELEFERIE. 17.00 Sprawozdanie sportowe. w przerwie ok. 17.45 Wiadomości dzienniika. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 TV Kurier Mazowiecki. 20.20 IV TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH. 21.40 „10 minut recenzji". 21.50 „Dobry wieczór, jak minął dzień". 22.20 Dziennik TV.

**Sobota 29.VII.**

10.00 „Sprawcy nieznani", film fab. wł. 11.40 Przerwa. 17.25 Program dnia. 17.30 Program tygodnia. 17.50 Wiadomości dziennika. 17.55 „Przyroda i my" — film radz. 19.00 „Rozmowy o książkach". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 „Wędrówki po Hollywood" — film USA. 20.55 „W wesołym miasteczku" — program rozrywkowy. 21.45 Dziennik TV. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.10 „Sprawcy nieznani" — film fab. wł.




**21 lipca**

12.00 Wiadomości. 12.45 Amurskie lato. 12.45 Dla szkół. 15.35 Wiadomości. 15.40 Dla szkół. 17.00 Tydzień Kazachskiej SRR. 18.00 „Na szlakach jedności. 18.25 Wiadomości. 18.45 „Jesteśmy z wami wietnamscy przyjaciele". 19.00 „Trzynaście krzeseł" — teatr miniatur. 20.00 Sztafeta nowin. 21.00 50-lecie władzy radzieckiej. 21.50 „Odwrotna strona medalu" — film fabularny.

**22 lipca**

13.25 Wiadomości dnia. 13.30 „Zwycięski pochód narodu polskiego". 14.00 Zamknięcie spartakiady uczniów. 15.30 Przemysł Kazachstanu. 16.25 „Świat literackiej wyobraźni" — 60 rocznica urodzin Samujlonka. 17.00 23 rocznica wyzwolenia Polski. 17.25 EXPO-67. 17.40 Wiadomości. 18.50 Tydzień Kazachskiej SRR. 20.00 Wiadomości. 20.20 „22 lipca — Polska". 21.20 „Maestro" — film fabularny. 22.50 Program satyryczny. 23.05 Dziennik sportowy.

**23 lipca**

10.00 „Budzik". 10.30 Podróż po Moskwie. 11.00 Ze świata sztuki. 12.00 Rób z nami, rób, jak my. 13.00 Rolnictwo Kazachstanu. 13.30 Dla uczniów. 14.00 „Radzieckiemu człowiekowi". 14.30 Kiosk muzyczny. 15.00 „Okręty idą w morze" — film. 15.30 Z historii operetki radzieckiej. 16.45 Koncert rosyjskiej piosenki lirycznej. 17.30 Wiadomości. 17.40 „Światło i cienie". 18.10 „Głos". 19.00 Audycja sportowa. 20.45 Wiadomości. 21.45 „Gdzie jesteś Lizo" — film fabularny. 21.50 Ekran naszych przyjaciół. 22.55 Dziennik sportowy.

 

# Першых 46



**Эдуарда Арлоўская — арганізатар і заснавальнік ППР на Беласточчыне. Зараз з'яўляецца яна сакратаром Галоўнага праўлення Таварыства польска - савецкай дружбы.**



**Ежы Штахельскі — пешры старшыня беластоцкай ВРН і першы беластоцкі ваявода, зараз — Міністр здароўя і грамадскай апекі.**

**(Працяг са стар. 1)**

варылася аб устанаўленні нейкіх прававамоцных устаноў. Узнікла тады фактычнае двухуладдзе.

Леанард Барковіч успамінае:

— Набліжаўся пачатак школьнага года. Трэба было адкрыць школы. Ежы Штахельскі праводзіў гутаркі са знаёмымі яму настаўнікамі. Усе яны адказвалі, што ахвотна прыступяць да працы, але ў гэтай справе мусяць мець згоду ўпаўнаважанага лонданскага ўрада.

Трэба было хутка дзейнічаць. Але дзейнічаць без людзей немагчыма. А людзі патрэбныя былі і ў міліцыю, і ў органы бяспекі, і ў суды, і ў школы. Патрэбныя былі не толькі ў Беластоку. Да палавіны ліпеня 1944 года акупант пакінуў усе паўднёва - ўсходнія паветы Беласточчыны. Неабходна было тварыць там народную ўладу.

Урэшце пасля двухтыднёвых пошукаў і безупынных гутарак Эдуардзе Арлоўскай удалося **13 жніўня 1944 года сабраць 46 таварышаў на першы арганізацыйны сход Польскай рабочай партыі ў Беластоку.**

Выдатны рэвалюцыянер, які ўжо памёр, Генрык Туральскі ў сваіх успамінах сцвярджае:

«Першы арганізацыйны сход адбыўся ў будынку на вуліцы Міцкевіча 12. Сабраліся старыя камуністы, а таксама члены арганізацыі ТУР. Паклікалі мы **Акружны камітэт ППР,** сакратаром якога выбралі Эдуарду Арлоўскую. Затым, як асноўныя праблемы, абмяркоўвалі спосабы ўзмацнення народнай улады ў Беластоку і арганізацыі палітычнай працы ў ваяводстве.

Першыя гурткі ППР заснаваліся ў беластоцкай электрастанцыі і ў фабрыках, а за Беластокам — у раёне Гарадка і Міхалова, потым на Бельшчыне і ў Гайнаўцы. У палавіне 1945 года Польская рабочая партыя налічвала на Беласточчыне ўжо звыш 2 тысячы членаў. Хаця, як успамінае Эдуарда Арлоўская, «...у 1944—1945 гадах пахавалі мы звыш 700 ППР-аўцаў, забітых бандамі на баявых пастах».

Гэта аднак быў толькі пачатак крывавай барацьбы за ўладу на Беласточчыне.

**В. Рудчык**




**Вызваленне паўднёва - ўсходніх раёнаў Беласточчыны. Цыфры пад назвамі мясцовасцей — гэта даты вызвалення гэтых мясцовасцей.**



**Леанард Барковіч — упаўнаважаны ПКВН на Беластоцкае ваяводства. Зараз — кіраўнік гістарычнай рэдакцыі выдавецтва «Кніжка і веды».**

Фота: архіў

# Настаўнікі з Беласточчыны ў Мінску

Як штогод выехала ў Мінск група настаўнікаў са школ з беларускай мовай. Групу ўзначаліў Бельскі падінспектар асветы сябра Язэп Альшэўскі.

Група складаецца з дваццаці настаўнікаў — у тым ліку: 9 настаўнікаў з Гайнаўскага павета, 6 настаўнікаў з Бельскага пав., 3 настаўнікаў з Беластоцкага пав., і па адным настаўніку беларускай мовы са школ Сакольскага і Сямяціцкага паветаў. У гэтых двух апошніх паветах беларускае школьніцтва найслабей развітае, асабліва, у Сакольскім павеце, дзе яно зусім занепадае з прычыны адсутнасці добракваліфікаваных кадраў настаўнікаў па беларускай мове.

Штогадовыя выезды настаўнікаў беларускай мовы ў Мінск маюць на мэце паглыбленне кваліфікацыі па гэтаму прадмету. Такі сэнс доўгатэрміновага дагавору паміж польскім і беларускім міністэрствамі асветы. Нам здаецца, што **ў будучых годах патрэбна, каб больш выязджала ў Мінск настаўнікаў са школ з беларускай мовай у тых паветах, дзе развіццё іх найслабейшае.** Ні ў Саколцы, ні ў Сямяцічах няма такіх сярэдніх школ, дзе навучаецца беларуская мова — таму магчымасці паляпшэння настаўніцкай кадры па гэтаму прадмету роўныя там амаль нулю. Выпускнікі беларускіх сярэдніх школ у Гайнаўцы і Бельску надта неахвотна прымаюць працу па-за сваімі роднымі паветамі. І гэта зразумела, за гэта ніхто не мае да іх прэтэнзіі...

Як дагэтуль, выезды ў Мінск разумеюцца, як узнагарода за добрую працу.

(С. Я)

## КУПЛЯЙЦЕ «БЕЛАРУСКУЮ МОВУ»

З'явілася ў прадажу «Беларуская мова» М. С. Яўневіча і У. К. Андэенкі — савецкі падручнік для 5—7 класаў васьмігадовай і сярэдняй школы з рускай мовай навучання (частка I. Фанетыка і правапіс, марфалогія). У падручніку даюцца асноўныя правілы літаратурнага вымаўлення і напісання слоў, змянення і спалучэння слоў у сказе. Падручнік прадаецца ў Беластоку ў кнігарні на вуліцы Кілінскага 10. Кнігарня мае вялікую колькасць гэтых падручнікаў. Цана падручніка 2 зл. 90 гр.

# Гэта было перад канікуламі



**Вучаніцы сёмага і восьмага класаў з Краснага Сяла імправізуюць «Філіпінкі».**

Вясна прыносіць радасць. Радуюцца ўсе: старэйшыя і малодшыя. Калі разыходзіцца аб вучняў дык бывае па-рознаму. Часам праклятая двойка наводзіць сум. Але як гаварыў адзін з вучняў, што двойкі ёсць на тое, каб іх папраўляць.

Вучняў пачатковай школы ў Красным Сяле мы наведалі іменна напярэдадні заканчэння навучальнага года. Штопраўда, не пыталіся іх аб ацэнкі, але як відаць на здымках, не вельмі радасных тут мала. Гаворачы карацей, вучні з Краснага Сяла жыццерадасныя, вясёлыя і спяваючыя.

Мне давялося і спяваць, і гуляць асабліва з вучнямі з Краснага Сяла. У прыгожым лесе даўжэйшы час гучэлі песні на розных мовах, а зухі запрасілі на свае гульні.



**Заядлая рывалізацыя малодшых школьнікаў у адной з гульняў.**

Тэкст і фота (ак)

# Аб Белавежскай пушчы ў газеце „Праўда"

У адным з чэрвеньскіх нумараў газеты «Правда» надрукавана рэпартаж А. Сімурава — «Парушальнікі граніцы». Аўтар расказвае пра зуброў і пушчу, у якой яны жывуць.

З гэтага рэпартажа даведваемся, што апошні зубр у Белавежскай пушчы быў забіты ў 1919 годзе. Зубры зноў паявіліся ў сваёй адвечнай Белавежы толькі ў міжваенны перыяд. Іх прывезлі з розных заалагічных паркаў. У сучасны момант жыве ў пушчы 530 зуброў — у беларускай частцы пушчы жыве 284 зубры і ў нас — 246 зуброў. Зубры свабодна ходзяць па цэлай пушчы і таму іх лікі па абодвух баках граніцы змяняюцца. Доследы над зубрамі вядуць супольна польскія і беларускія вучоныя — паводле супольна апрацаванай праграмы навуковых доследаў.

Наша частка Белавежскай пушчы налічвае 57 тысяч гектараў, да Беларусі належыць 79 тысяч гектараў дрымучай Белавежы. Аўтар рэпартажа падае паходжанне назвы Белавежскай пушчы. Было гэта так: у трынаццатым стагоддзі князь Уладзімір Валынскі загадаў пабудаваць на рацэ Лясной вартавую вежу для аховы сваіх уладанняў. Гэту вартавую вежу будаваў майстар нейкі Алекса. Вежа мела белы выгляд. Ад грознай Белай вежы і пайшла ў народзе назва Белавежскай пушчы. (ся)



 

# У КАЛГАСЕ „ГВАРДЫЯ“

(Працяг са ста. 1)

скіх чацвёра школьнікаў. Сям'я збіраецца пабываць цяпер у Ленінградзе. Тадэуш Казіміравіч сакрэтна сказаў, што ён даўно марыць пабываць у горадзе, які быў калыскай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. А грошай для такой паездкі пазычаць не трэба.

Багата і культурна жывуць усе калгаснікі. Можна было гаварыць аб матацыклах, халадзільніках, сціральных машынах. Але ўсё гэта ўжо не навінка. Іх сустрэнеш у кожным доме. Тутэйшыя сяляне збіраюцца пакупаць легкавыя аўтамашыны. Шматлікія ўжо зрабілі заяўкі. Лёгкакрылай птушкай ускінуўся ўверх калгас «Гвардыя». Ён славіцца сваімі ўраджайнымі палямі, тлустымі статкамі. Калісьці малаўрадлівыя супескі зрабіліся высокаўраджайнымі палямі. Высокая культура земляробства дала магчымасць збіраць кожны год па 20 цэнтнераў збожжа, да 300 цэнтнераў буракоў, 185—195 цэнтнераў бульбы з гектара. Добра родзяць палі, добрыя справы на фермах. У калгасе пабудавалі цудоўныя будынкі з цэглы, шлакаблокаў, з аўтапаілкамі, кормападрыхтоўчымі агрэгатамі, машынным даеннем. Калгасны статак налічвае зараз 2 770 галоў буйнай рагатай жывёлы, паўтары тысячы свіней. Фермы сталіся сапраўднымі фабрыкамі малака і мяса. У мінулым годзе калгас дзяржаве прадаў 18 572 цэнтнеры малака і 4 016 цэнтнераў мяса. Даход гаспадаркі дасягнуў 1 мільёна 448 тысяч рублёў. Надзейнымі, разумнымі памочнікамі сялян сталіся машыны. Тэхніку тут лічаць неабходнай. Яна робіць працу селяніна радаснай, творчай, прадукцыйнай. На палях «Гвардыі» зараз ходзяць 42 трактары розных марак, 14 збожжавых і 5 сіласаўборачных камбайнаў, 6 бульбапасадачных машын. А колькі ўсялякіх сеялак. Толькі машынамі вырошчваюць у калгасе і збіраюць збожжа, бульбу, цукровыя буракі. Механізмы падаюць на фермы ваду, рыхтуюць і раздаюць корм, дояць каровы, машыны ў садзе, на таках.

Па ўсіх вёсках крочаць слупы электраліній. Усе вёскі тэлефанізаваныя. У калгасе ёсць свае механічныя майстэрні з навейшым абсталяваннем. Вялікая электрагаспадарка. Працуе 128 электраматораў, 33 аўтамабілі цэлы год прывозяць усялякія грузы. У вёсках калгаса ёсць свае трактарысты, камбайнёры, свае шафёры, свае электраманцёры, слёсары, токары, газазваршчыкі. Аб такіх прафесіях калісьці тут і не чулі. Маюцца і свае будаўнікі. А будуе калгас паводле генеральнага плана. Пабудаваны трохкватэрныя і чатырохкватэрныя дамы. Ва ўсіх гарыць блакітны агеньчык газу. Ні ў адной вёсцы калгаса не сустрэнеш цяпер пакасіўшыхся з падслепаватымі вокнамі курных хат, брудных вуліц, асабліва папрыгажэлі вёскі гэтай вясною.

Хутка будаўнікі аддадуць у карыстанне тыповую пральню, будуецца гандлёвы цэнтр. Будуецца вялікая крама, рэстаран, гасцініца, асфальтам высцілаюцца вуліцы вёсак.

Працавітыя, згуртаваныя адзінай мэтай людзі працуюць у «Гвардыі». Лепшыя з лепшых удастоены дзяржаўных узнагарод. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена старшыні калгаса Андрэю Максімавічу Варанецкаму.

За дасягнутыя поспехі ў развіцці сельскагаспадарчай прадукцыі, выкананне плана нарыхтовак прадуктаў сельскай гаспадаркі. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР калгас «Гвардыя» Бераставіцкага раёна ўзнагароджан ордэнам Леніна.

**С. Лайхтман**

**(Матэрыял арганізавала нам «Гродзенская праўда»).**



**Новыя жыллёвыя дамы ў пасёлку Эйсманты калгаса «Гвардыя».**
Фота Я. Краўчанка

на сцяне прэзідэнцкага кабінета?» — прапанаваў ён. Кенедзі, імкнучыся паказаць, што праяўляе цікавасць, у душы жахнуўся. Пасля таго, як віцэ-прэзідэнт пайшоў, ён загадаў прыбраць галаву і забыць пра яе. Але яна не была забыта. Ліндан пазваніў па тэлефону і весела пацікавіўся са свайго кабінета, дзе ж алень, калі яго павесяць. Пазней ён яшчэ не раз успамінаў пра гэта. Урэшце рэшт галава аленя, як і любы іншы падарунак, які неаднаразова адхіляюць, стаў праблемай паміж імі, і Кенедзі ўступіў яшчэ раз. Галава была павешана, але не ў авальным кабінеце, а ў суседнім пакоі. Прэзідэнт зрабіў ласку — толькі адна першая лэдзі ведала, якую вялікую, — і яго віцэ-прэзідэнт быў шчыра ўзрадаваны. Уступка за ўступку, крыху прайграць — такая стратэгія палітычнай барацьбы.

У адным з варыянтаў свайго любімага жарту Джон Кенедзі часта гаварыў сваім сябрам, што «ў свеце існуюць тры рэчы, якія занадта пераацэньваюць, штат Тэхас, ФБР і чучала галавы аленя».

**(Працяг будзе)**

## БЕЛАСТОЦКІЯ ВЕРШЫ

У нумары шостым варшаўскага месячніка «Наш клуб» апублікавана падборку твораў аўтараў вядомага ўжо нам альманаха «Кшталты мыслі», надрукаванага ў мінулым годзе на сродкі Беластоцкага таварыства культуры і Ваяводскага праўлення ЗМВ. У падборцы змешчана творы: Крыстыны Салановіч, Яшы Бурша, Сакрата Яновіча, Януша Бернера, Эўгеніуша Шульборскага, Аляксея Казберука. (п)

**Беларусіяна**

## Новыя пераклады К. А. Яворскага

Вядомы перакладчык і папулярызатар беларускай паэзіі К. А. Яворскі змясціў у люблінскай «Камене» за 30 чэрвеня г. г. новыя свае пераклады трох лірычных вершаў Максіма Танка.

*Нацыянальныя справы*

# Нацыянальная меншасць і культура

У сувязі з 20 гадавінай утварэння Польскага культурна-асветнага саюза ЦСРС, якая прыпадае ў гэтым годзе і якая будзе святкавацца ў месяцы ліпені, паланійны друк, які выходзіць на тэрыторыі цешынска-карвінскага Слёнска, змяшчае цікавыя пазіцыі. Грамадска-культурны месячнік ПЗКА «Зврот» змясціў у апошнім нумары скарочаны даклад дзеяча гэтага Саюза, Генрыка Лясічка, прачытанага на канферэнцыі ПЗКА у Чэшскім Цешыне. Вось фрагменты:

«Праблемай, якую ў пэўным перыядзе мы вельмі ўскладнілі, была справа нашай нацыянальнай прыналежнасці. Ні з таго, ні з сяго пачалі аспрэчваць і падрываць нашу нацыянальную прыналежнасць з пазіцыі левых хібаў. Пачалі рабіць меркаванні і высоўваць гіпотэзы аб тым, што мы з'яўляемся як быццам чэхамі, якія гавораць па-польску. Аддзялілі нас выразна і недвухсэнсава ад якіх-небудзь сувязей з польскім народам, не прызнавалі нашай нацыянальнай свядомасці і выплываючага з яе нацыянальнага патрыятызму, як паняцце старое і буржуазнае. Гэтая «новая канцэпцыя» няшмат адрознівалася ад старых тэарэтычных прадпасылак, якія прапагаваў у міжваенны перыяд, паводле ўказанняў прэзідэнта Эдварда Бэнэша, прэм'ер урада Мілан Годжа».

«Тэндэнцыі да гэтай аднабакова разуметай нацыянальнай уніфікацыі аджылі таксама пасля вайны, даў ім аднак моцны адпор тагачасны прэм'ер урада Клемэнт Готвальд. Але недзе пасля 1953 года, у час не зусім спрыяльны шчырай і адкрытай дыскусіі, асабліва абароне, пэўныя тэарэтыкі, часта на ўплывовых пасадах, задумваючыся над нашай нацыянальнай прыналежнасцю, спрабавалі зрабіць з нас нейкую самабытную нацыянальную групу, адмаўляючы па-за моваю якіх-небудзь сувязей, значыць гістарычных, культурных, бытавых, з польскім народам. Вывады, якія з гэтых разважанняў былі выцягнуты, адбіліся, зразумела, на нашай саюзнай, культурнай і асветнай працы, перад усім у школьніцтве, дзе планы навучання падпарадкаваны былі так зразумелым выхаваўчым мэтам».

«У нашым свеце і наш час моладзь трэба выхоўваць так, каб яе нацыянальная свядомасць была звязана з пачуццём прыналежнасці да краіны, у якой жыве, каб гэтая свядомасць не засланяла ёй грамадскіх і грамадзянскіх абавязкаў не толькі перад уласнай краінай, але і памяншаючагася — з прагрэсам працэсу інтэграцыі — свету. Каб быць добрым інтэрнацыяналістам, трэба выходзіць з нейкай нацыянальнасці і быць з ёю звязаным. Не разумее іншага народа той, хто не мае дакладнага азначэння становішча да ўласнага, хто не з'яўляецца звязаным пачуццямі з традыцыяй, гісторыяй, культурай, гістарычна сфармаванай людской зборшчынай, якой з'яўляецца народ. З'яўляемся палякамі і гэта не прычына біць у бубны, да нацыянальнай маніі вялікасці, ані таксама да ізаляцыі, але таксама не прычына да комплексаў, замоўчванняў, хістанняў, пятлянняў, да браку адвагі называць справы і рэчы па імені».

У нашых умовах, у становішчы ў якім жыве нацыянальная меншасць, патрыятызм гэтай меншасці не можа развівацца ў канфлікце ці ізаляцыі з народамі і нацыянальнасцямі, з якімі жывем у супольнай краіне. Культурная і нацыянальная дыферэнцыяцыя не павінна быць перашкодаю ці тармазам, наадварот, павінна ўзбагачаць жыццё нас ўсіх у дадатковыя вартасці, у новы змест, хаця дагаварыць трэба будзе яшчэ не адно недагаворанае і адсунуць з дарогі не адну перашкоду. Кожная з нашых нацыянальных культур, усё роўна ці чэшская, славацкая ці польская, сустракаючыся ўздзейнічаюць на сябе, апладняюцца ўзаемна, узбагачаюцца».

«Абмінаючы ўжо гэты факт, што палякі ў Чэхаславакіі з'яўляюцца ў рашаючай большасці аўтахтонным насельніцтвам, насельніцтва гэта, у новай сацыялістычнай сістэме грамадскіх адносін можа быць і стаецца на пагранічы дзвюх братніх краін канструктыўным элементам, грамадствам, якое не задавальняецца дэкларацыяй лаяльнасці, чаго патрабуецца ад меншасцей у капіталістычных краінах, але ў нашых умовах адчувае сябе саўладальнікам краіны — ЧСРС. Пашыраючы паўнату нацыянальных і грамадскіх правоў, гэтае грамадства пераўтварае краіну, у якой жыве, у супольную народную айчыну ўсіх яе жыхароў, адчуваючы поўнасцю супольную адказнасць за яе развіццё і бяспеку».

«Меншасці могуць і павінны адыгрываць ролю сувязных, ролю цэменту, ролю прываднога паса паміж дружалюбнымі краінамі. У часы інтэнсіўных інтэграцыйных працэсаў меншасць можа адыграць ролю прапагандыста, пасрэдніка і сувязнога ў працэсе ўзаемнага пераказвання культурных каштоўнасцей. Яе ролі нельга ў гэтых адносінах пераацэньваць, але нельга таксама яе не даацэньваць. Адносіны сацыялістычных краін, якія з года ў год замацоўваюцца, ствараюць умовы для гэтага, каб на пагранічы было штораз менш перашкод, каб з нацыянальных меншасцей зрабіліся — пры мудрай і памяркоўнай палітыцы, фарпосты дружбы і супрацоўніцтва».
(«Палітыка», № 25 (538), 24.VI. 67 г.)

### ЗАКАЗЫ НА ВАПНУ

Ужо час заказаць сабе ў ГС-е вапну для вапнавання поля. Плата за давоз і рассеянне вапны па полі ёсць **напалову** ніжэйшай, рэшту даплачвае дзяржава.

У мінулым годзе дзяржава даплаціла каля двух мільёнаў злотых за давозы і сяўбу ў полі вапны, заказанай гаспадарамі. У гэтых справах дзяржава не лічыцца з коштамі, каб палепшыць ураджайнасць нашых земляў. Як вядома, нашы землі моцна заквашаныя і патрэбна шмат палявой вапны, без якой не даб'емся высокіх ураджаяў збожжа.

Вапнаванне (сяўба вапны) адбываецца пры першым ворыве пасля жніва.

(ся)

 

Самыя раннія запісы музыкі, якія дайшлі да нас, адносяцца да III—II стагоддзяў да новай эры. Гэта маленькі ўрывак з трагедыі Еўрыпіда «Арэст» і песня, высечаная гадоў за сто да новай эры на надмагільнай пліце ў Малой Азіі, а таксама некаторыя іншыя запісы. Розныя музычныя знакі выкарыстоўваліся ў Палесціне, старажытным Кітаі, Індыі. Некаторыя з іх не разгаданы, не прачытаны і па сённяшні дзень.

З часоў антычнасці быў вядомы літарны запіс мелодыі.

Прайшлі стагоддзі, перш чым на змену літарам, складам, з дапамогай якіх спачатку запісвалі мелодыю, прыйшлі новыя, своеасаблівыя знакі. Гэтыя значкі, якія складаліся з рысачак, звілістых ліній, косак, кружкоў, называліся неўмамі.




Неўма — грэчаскае слова, яно абазначае ківок, жэст. Доўга не маглі прывыкнуць да неўмаў музыканты. І яшчэ ў VIII—IX стагоддзях ужываліся пеўчыя кнігі з літарным запісам. Паступова неўмы, напісанне якіх нібы ўказвала спевакам «кірунак» мелодыі — уверх і ўніз, усё больш трывала ўваходзілі ў музычную практыку. Але па іх немагчыма было праспяваць невядомы раней напеў, бо яны не маглі ўказаць дакладную вышыню гуку.

Музыкант і гісторык з Рэйхенаў Герман Кантрактуе прыдумаў у дадатак да неўмаў асаблівую сістэму значкоў, па якіх можна было прыкладна вызначаць інтэрвалы.

Вучоны манах Гукбальт у IX стагоддзі ўпершыню ўзнавіў на патаносцы шэсць струн кіфары ў выглядзе шасці лінеек, пад якімі размяшчаліся склады, тэксты. Нотная лінейка ў сучасным разуменні, як мера адліку вышыні, была выкарыстана ў X стагоддзі.

Сапраўдным цудам здалося сярэдневяковым спевакам адкрыццё манаха-бенедыкцінца Гвідо Арэцінскага, які не пабаяўся адмовіцца ад многіх старых традыцый. Спачатку Гвідо прапанаваў карыстацца для запісу гукаў чатырма лінейкамі, размясціўшы на іх відазмененыя неўмы па тэрцыях, а паміж лініямі ўпісаўшы прамежкамі гукі; і адразу стала магчымым дакладна запісаць і прачытаць пяць гукаў — амаль усе, якімі ў той час карысталіся для выканання царкоўных гімнаў і ўрачыстых спеваў. Музыкант-вучоны не спыніўся на дасягнутым; яго не пакідала думка аб тым, што кожны гук павінен знайсці на натаносцы сваё пастаяннае месца.

Поспехі сістэмы Гвідо выклікалі нястрымную зайздрасць яго сабратаў па манастыры. Ён вымушан быў перабрацца ў іншы манастыр, у Авелана. Імя «Арэцінскі» ён атрымаў па гораду Арэца, які лічыцца яго радзімай. Там яму пастаўлен помнік.

Урокі свае Гвідо пачынаў звычайна распеўным лацінскім гімнам. Асаблівасць яго была ў тым, што кожны наступны радок пачынаўся з суседняга павышаючагася гуку. Калі хто-небудзь з вучняў пачынаў фразу недакладна, настаўнік папраўляў яго, паўтараючы першы склад. «Ут», — патрабавальна спяваў ён, — ці; «рэ», «мі», «фа», «соль», «ля», — іменна гэтымі складамі пачынаўся тэкст кожнага новага радка гімна.

Гвідо Арэцінскага асяніла дасціпная здагадка: назваць шэсць асноўных гукаў па гэтых першых складах песні — гімна, які ў той час ведалі ўсе спевакі. Да гэтага часу існуюць у нашай музыцы назвы, дадзеныя Гвідо. Толькі замест «ут» мы гаворым зараз «до», а да «гвідовай сям'і» гукаў у XVI стагоддзі далучылася яшчэ адна назва ноты — «сі».

Пазней, калі чатырох лінеек, вынайдзеных Гвідо, музыкантам аказалася мала, яны далучылі да іх пятую. Цяпер мы запісваем музыку на пяці лінейках, дапісваючы да іх, калі спатрэбіцца, дадатковыя лінейкі зверху і знізу.

Адно стагоддзе змянялася другім. Людзі прыдумалі просты спосаб абазначэння працягласці нот; для зручнасці запісу высокіх і нізкіх гукаў нарадзіліся і занялі сваё месца ў пачатку натаносца ключы; з'явіліся дыезы і бемолі, якія павышаюць ці паніжаюць любы гук на паўтону. З відазмененых Гвідо неўмаў узнікла квадратнае нотнае пісьмо. Паступова ноты сталі круглымі. Нарэшце, запісаную музыку пачалі дзяліць на такты... Крок за крокам адбываліся вялікія і малыя заваёвы, пакуль у XVIII стагоддзі музыканты не перайшлі на сучасны натапіс.

**І. Фадзеева**




**ЗАХОЎВАЙЦЕ ВІТАМІН С**

Соль і цукар засцерагаюць вітамін С ад разбурэння. Таму, падрыхтоўваючы агародніну да варкі, вопытныя гаспадыні кладуць яе ў падсоленую ваду, а фрукты — у падсалоджаную.

Але вітамін захаваецца яшчэ лепш, калі прадукты класці не ў халодную, а ў кіпячую ваду. Пад уплывам высокай тэмпературы адразу ж разбураюцца ферменты, якія знішчаюць вітамін С.

# МАЛЮНКІ З ЮГАСЛАВІІ

Сацыялістычная Федэратыўная Рэспубліка Югаславіі займае тэрыторыю мала меншую, чым Польшча (255 тыс. кв. км). Пражывае ў ёй звыш 20 мільёнаў чалавек. Да яе належыць палавіна Адрыятычнага мора — гэтага найбольш цудоўнага мора Еўропы, куды з'язджаецца штогод сотні тысяч турыстаў з цэлага свету. Югаслаўская федэрацыя складаецца з шасці саюзных рэспублік: Сербіі, Харватыі, Славеніі, Босніі і Герцэгавіны, Македоніі і Чарнагорыі. Існуе таксама дзве аўтаномныя вобласці — Вайвадзіна з перавагай венгерскага насельніцтва ды Косава і Метохія з албанскім насельніцтвам (штосьці звыш аднаго мільёна).

І так, Югаславія — гэта саюз пяці нацый: сербаў, харватаў, славенцаў, македонцаў і чарнагорцаў. Пражывае прытым каля 15 нацыянальных меншасцей, з якіх найбольш ёсць албанцаў, венгерцаў, туркаў, славакаў і цыганоў.

У час апошняй вайны Югаславія ў геройскай барацьбе супроць фашызму пад кіраўніцтвам маршала Ёсіпа Броз-Ціта здабыла незалежнасць (страціла амаль два мільёны чалавек). Дзякуючы сацыялістычнаму будаўніцтву краіна хутка загоіла раны вайны, будуе сваю магутную гаспадарку.

Цудоўная прырода і дасканалы клімат Югаславіі ставарае надзвычайныя ўмовы для развіцця міжнароднай турыстыкі, з якой немалы даход у чыстых дэвізах. (а-ся)



**Сараева — сталіца рэспублікі Босніі і Герцэгавіны, горад з тысячамі мінарэтаў у старадаўнім турэцкім квартале.**



**Мясцовасць Цітава — Ужыцы. Мост на рацэ Дзялыня з маляўнічымі, стромкімі берагамі.**




**КРЫСЯ**

Як вы ўжо ведаеце, Коля трапіў у баракі ўцекачоў з усходу, якія адступалі разам з нямецкай арміяй і там сустрэў свайго суседа з Масквы Сцяпана Багданава. Багданаў не выдаў Колю і яго, пасля праверкі і экзаменаў, накіравалі працаваць у афіцэрскую цырульню. Сцяпан жа атрымаў працу ў аўтамайстэрні танкавай часці, што дыслацыравалася ў сямі кіламетрах ад Кракава, непадалёку ад форта Пастэрнік. Коля запрапанаваў Сцяпану супрацоўніцтва, і той згадзіўся.

Сцяпан часта працаваў у гаражы сам. Ён мог і аслабіць гайкі ў маторах, і сыпнуць пясочку ў рухавік, але Коля, калі яны апошнім разам бачыліся, катэгарычна забараніў яму гэта рабіць.

— Усё разумею, — сказаў Коля, — але трымайся. Ты мне ўсю гульню сапсуеш. На глупствах гінуць няма сэнсу.

— А што мне рабіць? Я так не магу.

— Я ж табе тлумачыў: мяне цікавіць, хто ездзіць на гэтых машынах, куды ездзяць, прозвішчы шафёраў, іх гаспадароў. І сапёры, сапёры... Мяне цікавяць сапёры і «СС».

Сустракаліся яны вечарамі, у доміку Крысі, дзе жыў Багданаў. Крыся, худзенькая, беленькая, дваццаці год, была ціхай-ціхай, як мышка. З дома яна амаль ніколі не выходзіла, хадзіла па пакоях, таксама вельмі ціха і рухі яе былі вельмі асцярожныя.

Яна стала такой з тых пор, як зышлася з немцам. Называўся ён Курт Апель, ён быў таксама худзенькі, белы — зусім хлопчык.

— Я ўсё разумею, — гаварыў ён, — я да цябе буду прыходзіць толькі ноччу. Я не буду ганьбіць цябе сабою, Мыш.

Ён называў яе Мыш, і твар яго рабіўся, як у святога: чысты, светлы, ласкавы.

Да таго, як яны сустракаліся, Крыся была звязана з людзьмі Сівага. Яна была вясёлай, гаварыла голасна, хадзіла, як усе людзі, а не так як цяпер, — пералекана. А калі з'явіўся Курт, яна перастала сустракацца са сваімі сябрамі, асабліва пасля таго дня, калі Сівы праз сувязных папрасіў яе даваць інфармацыю, дастаючы яе праз немца. Крыся сказала тады:

— Я ж люблю яго, я не магу так. Я ж не прадажная якая...

— Ты разумееш, што гаворыш? — спытаў сувязны.

— Калі б не разумела...

— Радзіму, значыць, прадаеш?

Сувязному было сямнаццаць год. Ён устаў з крэсла і ўдарыў Крысю ў твар, а потым плюнуў сабе пад ногі, і сказаў.

— Эх ты!.. Паршывая нямецкая падсцілка!..

Калі аб гэтым даведаўся Сівы, ён вельмі раззлосціўся, але да Крысі не пайшоў, таму што не ведаў, як яна цяпер яго прыме. А яна чакала. А потым чакаць перастала. Дзень яна пачала ненавідзець: ёй здавалася, што днём яе павінны забіць за здраду. Яна днём чакала ночы. Да яе прыходзіў Курт, і Багданаў чуў, як яны па начах ціхенька гаварылі. Сцяпан доўга слухаў іх, і чым далей, тым ясней у яго складвалася ўражанне, што гавораць яны, быццам дзеці, і любяць адзін другога гэтай зніклай у гады вайны чыстай дзіцячай любоўю.

Аднойчы Багданаў сядзеў з Колем за чаем. Было яшчэ не позна, да камендацкай гадзіны засталося мінут сорак. Хоць у Колі быў аўсвайс і начны пропуск, усё роўна ён вяртаўся дамоў з явак завідна, каб не выклікаць падазрэнняў.

Крыся была на кухні. Яна мыла посуд. Раптам адчыніліся дзверы. На парозе стаяў немец. Гэта быў Курт.

— Добры дзень, панове, — сказаў ён на ломанай польскай мове і прайшоў у кухню. Яны пачалі хутка аб чымсьці гаварыць. Потым яны надоўга замоўклі.

Багданаў кіўнуў галавою на кухню і шапнуў:

— Бач, Мантэкі і Капулеці.

— Тш-шш, — прылажыў Коля палец да губоў.

Коля ўвесь час прыслухоўваўся да гутаркі. Немца пераводзілі ў Германію, ён не хацеў ехаць.

«Немец нам бы вельмі прыдаўся, — падумаў Коля, — толькі гэты нейкі разява. Ад яго, як ад казла малака».

А потым немец заплакаў.

— Я нікуды не паеду адсюль, — выдыхнуў Курт. — Нікуды.

**У ЦЭНТРЫ**

Толькі каля гадзіны выканаўцы закончылі працу і перадалі палкоўніку Барodзіну тэкст радыёсеанса з Віхрам.

«У апошнюю нядзелю ніякіх новых дадзеных нам атрымаць не ўдалося. Работа працягваецца па ўсіх устаноўленых сувязях. Ясна толькі, што раён форта Пастэрнік — той плацдарм, на якім базуюцца нямецкія войскі, ажыццяўляючыя падрыхтоўку да акцыі.

Коля праз Сцяпана, савецкага ваеннапалоннага, які ўцёк з лагера, выйшаў на Курта Апеля, шафёра ў штабе арміі, які быў ім завербаваны. Апель просіць дапамагчы яму застацца ў Польшчы разам з яго жонкай Крысяй Жывульскай.



 

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## КУРСЫ

У Гайнаўскім павеце налічваецца яшчэ 55 вёсак, у якіх няма сельскагаспадарчых курсаў; у Бельскім павеце — 94 вёскі, у Беластоцкім пав. — 65 вёсак, а ў Сакольскім — аж 103 вёскі. (ся)

## ПАД АПЕКАЙ ГРАМАДСТВА

Часта сустракаем людзей, якія патрабуюць нашай апекі. Пераважна гэта адзінокія старэнькія бабулі і дзядулі, невылячальна хворыя дзеці, нярэдка і псіхічна хворыя дарослыя. Сутыкаючыся з іх трагічным лёсам, задумваемся над тым, чаму яны засталіся вось так, на вуліцы, нікому не патрэбныя.

І тут хацелася б прывесці некалькі лічбаў.

У нашым, Беластоцкім ваяводстве грамадства штогод прызначае на ўтрыманне дамоў грамадскай апекі каля 11 мільёнаў злотых. У нашым ваяводстве існуе 6 дамоў грамадскай апекі, у тым ліку дамы для невылячальна псіхічна хворых у Харошчы, Сувалках, дом пенсіянераў у Беластоку, у Ялоўцы і Новай Всі дамы для невылячальна хворых і пенсіянераў, дом для недаразвітых дзяўчат — ў Ломжы.

Як бачым, здаецца, нямала. Але ў параўнанні з патрэбамі — далёка недастаткова.

Цяпер будуецца і ў гэтым годзе будзе аддадзены ў карыстанне новы дом грамадскай апекі ў Беластоку для недаразвітых хлопцаў. Гэта ў нейкай меры вырашыць клопаты з месцамі для хлопцаў.

Для іншых патрабуючых месц доўга яшчэ будзе мала. Ужо цяпер неадкладна павінны быць прыняты (гэта зацвердзіла спецыяльная камісія) у дамы грамадскай апекі 26 пенсіянераў і 68 невылячальна псіхічна хворых.

А месц няма.

Таму і вымушаны тыя хворыя і старыя людзі дажываць свой век сярод нас. Нельга забываць аб тым, што ім вельмі патрэбна наша дапамога ў штодзённым жыцці. (Я. Ч.)

---

Просім даць дадзеныя на нямецкага журналіста Траўба.

Коля стварыў баявую групу з ваеннапалонных, якія ўцяклі з лагера, а цяпер знаходзяцца ў лясах, у раёне Закапанэ. Прозвішчы і поўныя дадзеныя гэтых людзей паведамлю ў наступным сеансе. Віхор».

Барадзін дастаў з сейфа толькі што прынятае данясенне з Масквы, зрабіў выпіску, схаваў данясенне назад і пачаў пісаць адказ Віхру:

«Неадкладна перадайце прозвішчы людзей, завербаваных Колем у баявую групу. Шафёра прысвойваецца клічка «Антон». Высветліце прозвішчы камандзіраў сапёрных часцей. Дваццаць пятага ў Кракаў у «Французскую» гасцініцу прыбывае эсэсавец фон Штырліц. Пачынаючы з дваццаць шостага тры дні запар або вам, або Колі трэба быць на ўсіх вячэрніх службах у касцеле на плошчы ля рынка, пяты рад, першае месца злева, або ў рэстаране «Французскага» атэля. Да вас падыдзе чалавек і спытае: «Выбачайце, калі ласка, ці свабодна гэта месца?» Вы адкажаце яму: «Калі ласка, але я чакаю даму». Выконвайце яго заданні на той час, які яму спатрэбіцца. Прывітанне. Барадзін.

Здарылася так, што Аня паспела прыняць толькі частку ўказанняў Барадзіна. Яны з Віхрам сядзелі ў хлеўчыку ў пчаляра Войцеха. Калі Аня прынімала фразу «Пачынаючы з дваццаць шостага...», у дзверы забарабахталі.

Працяг будзе

## ПАТРЭБНЫ ПАЎСТАНАК

У Выганаўскай Вольцы здаўна гавораць аб патрэбе пабудовы чыгуначнага паўстанка паміж станцыямі Грыгораўцы і Кляшчэлі — нават Бельск прызнаў выганаўцам рацыю. Невядома толькі, ці што-небудзь больш зроблена апрача гэтай гаворкі пра паўстанак?.. (ся)

## ГАСПАДАРЫ ВУЧАЦЦА

За мінулы асенне-зімовы перыяд прыймала ўдзел у сельскагаспадарчых курсах каля паўтара мільёна гаспадароў у Польшчы.

Нягледзячы на шматлікія намаганні арганізатараў — у курсах гэтых вельмі мала ўдзельнічалі гаспадары слаба развітых гаспадарак, а таксама жанчыны і моладзь. Ахвотна ўдзельнічаюць у курсах гаспадары, якія маюць добрыя гаспадаркі і ўжо самі някепска ўмеюць гаспадарыць. Ясна, што ў наступных курсах павінна больш удзельнічаць слабых гаспадароў, якія дзякуючы здабытым ведам маглі б палепшыць даходнасць сваіх, часта занядбаных, гаспадарак. (ся)




## *ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА-*

Я аграном. Працую і жыву ў вясковым асяроддзі. Мне толькі 24 гады. Нядаўна я прыехала ў мясцовасць Н. Тут пазнаёмілася з лекарам вясковага пункта аховы здароўя. Я вельмі пакахала Янку, таму згадзілася на тое, каб Янэк харчаваўся і жыў у мяне. Да свайго памяшкання заходзіць рэдка. То праўда, што людзі ўсяляк на мяне пляткуюць, але мяне гэтыя плёткі не цікавяць. Горш вось з тым, што Янэк мае жонку і двое дзяцей, якія жывуць у Варшаўскім ваяводстве. Часамі ездзіць да іх. Калі прыедзе, стаецца нейкі задуманы, чужы. Тады часта паўстае ў нас спрэчка. Мне не падабаецца, што Янэк ездзіць да жонкі і дзяцей, а што горшае, дык яшчэ ёй не сказаў аб тым, што мае мяне. Толькі ўсё абяцае. Не ведаю, што рабіць далей, бо хацела б узяць шлюб з Янкам. Надумалася ехаць сама да яго жонкі і сказаць аб гэтым, калі яму самому не хапае адвагі. Янэк аб маёй пастанове нічога не ведае. Ці сказаць яму аб гэтым, ці не?

*Галя з Н.*

*Дарагая Галя!*

Напэўна ты павінна сказаць аб сваім намеры Янку. Бо гэта ж павінен зрабіць ён. Аднак калі ён дагэтуль нічога не сказаў жонцы, а табе ўсё абяцае, неяк цяжка паверыць у яго каханне да цябе. Вельмі многа мужчын, якія выязджаюць у тэрэн без сям'і, знаходзяць наіўных маладых дзяўчат, абяцаюць, а потым так хутка знікаюць, як з'явіліся. Ты, Галя, павінна пакінуць Янка, ён жа ж мае жонку і двое дзяцей. Сам факт паводзін Янка, калі прыязджае з дому, не варожыць у вашым жыцці нічога добрага. Лепш вырашы цяпер, пакуль яшчэ не позна. А перажываннi твае будуць навучкай на будучыню.

*Сэрцайка*

## ТРУСКАЛКІ



Жыхары вёсак Войшкаў, Рыбалаў і Паўлаў у Бельскім павеце славяцца з кантрактацыі трускалак. З сёлеташняга ўраджаю прадалі яны дзяржаве каля 300 тон трускалак. Куды ідуць трускалкі з Бельшчыны? Раённы агародніцка-пшчалярскі кааператыў выслаў 250 тон на перапрацовачны завод у Гары Кальварыі, а 30 тон адправіў у Заходні Берлін.

**На здымку жыхары Войшкаў на скупачным пункце.**

Тэкст і фота П. Зіневіч

## СТАРОЕ І НОВАЕ



На здымку вы бачыце вуліцу Марыі Кюры Складоўскай у Беластоку. На гэтай сучаснай артэрыі горада, побач шматпавярховых новых будынкаў, можна яшчэ сустрэць старэнькія хаткі, па якіх можам выразней адчуць перамены, якія перажывае бурна развіваючаяся сталіца нашага ваяводства.

Фота В. Касакоўскі

## ПАШТОЎКА З ЛЯШУКОЎ



Фота Янка Целушэцкі
Ляўкова

## БРАЦЬ ПРЫКЛАД З БАГНЮКОЎ

Бульба пасходзіла і пачала расці, а на карчах паявілася стонка. Сяляне Лукі і Слабодкі пачынаюць нішчыць яе хімікатамі, пасыпаючы з торбачкі або з рукі. Зусім інакш праводзіцца барацьба са стонкай у Багнюках. Тут сельскагаспадарчы гурток, найбагацейшы ў ваколіцы, мае трактарны апыляч, якім і апыльваюцца палеткі багнюцкіх сялян. Такое апылянне знішчыць стонку зусім. Варта, каб Лука і Слабодка ўзялі прыклад ад Багнюкоў і купілі сабе такі апыляч. **Чарот**

## НЕПАРАДКІ

У сельскагаспадарчым гуртку ў вёсцы Аўгустова ёсць 11 трактараў — і патрэбна база, якую будуе будаўляная фірма ўжо невядома колькі часу. Гэта маруда да таго прыелася людзям, што, здаецца, не будзе канца будовы Аўгустоўскай базы.

Калі ў такіх тэмпах будуць будавацца і іншыя базы, то няхутка дачакаемся парадку ў гаспадарцы нашых сельскагаспадарчых гурткоў. (ся)

## ШТО Ў КНАРЫДАХ?

Што чаўпецца ў Кнарыдаўскім сельскагаспадарчым гуртку, ніхто толкам не можа растлумачыць. Нават начальнікі ў Бельску! Даволі таго, што ў Кнарыдах ёсць два трактары, якія стаяць, бы ўкапаныя — без ніякай карысці.

Мо' хто з кнарыдаўцаў адважыцца высніць нам гэту дзіўную сітуацыю? (ся)

# КІНО

**ПРАГРАМА**

**на 25—30. VII. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Ludobójcy" (szwedzki), 25 — 26. „Dialog" (węgierski), 27 — 28. „Fanfan Tulipan" (franc.), 29 — 30.

**Нараўка**

„Chudy i inni" (polski), 25 — 26. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 26 — 30.

**Нарва**

„Bokser" (polski), „Samotna" (radziecki), 26 — 30.

**Чыжы**

„Cierpkie głogi" (polski), „Długość pocałunku 90" (czeski), 26 — 30.

**Дубічы Царкоўныя**

„Barwy walki" (polski) „Trzy światy Guliwera" (angl.), 26 — 30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Strzelby Apaczów (USA), 25 — 26. „Nasz wspólny przyjaciel" (radz.), 27 — 28. „Panie inspektorze" (franc.), 29 — 30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), „Tygrys lubi świeże mięso" (franc.), 25 — 28.

**Міхалова**

„Macario" (meksykański), 25 — 26. „Grunt to zdrowie" (franc.), 27 — 28. „Miejsce dla jednego" (polski), 29 — 30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Partyzanckim szlakiem" (jugosł.), „W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), 26 — 30.

**Новы Двор**

„Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), „Tak" (węgierski), 29 — 30.

---



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.



 

